*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 11
Ліпень
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА

## ВОЛЬНЫ МІКРАФОН

## Што святкуем?

Адгрымела чарговае свята - *Дзень Незалежнасці.* Кажуць, яно нашае самае галоўнае. Тут і вайсковы парад, і дзяржаўны гімн трэба спяваць у пазначаны час. Трэба радавацца. Трэба святкаваць. Святкаваць... Дарэчы, *“свята”* - ад слоў *“святасць, святы́”.* А што такога святога ў нашай гісторыі было менавіта 3 ліпеня? Ды амаль нічога. А наогул - што такое нашы афіцыйныя святы? Адкуль яны? З якой такой святасці ўзніклі? Дзіўна, але пераважная большасць - ад шматлікіх ленінскіх дэкрэтаў аб утварэнні той ці іншай структуры - ці то ВЧК, ці то геадэзія-картаграфія. Праўда, дзень міліцыі усё-ткі перанеслі на сакавік - калі Міхаіл Фрунзэ ў Мінску першы міліцэйскі атрад арганізаваў.

Сакавік... Узгадваем назву месяца -- і ў памяці ўсплывае чамусці не міліцэйскі дзень народзінаў, а лічба *“25”* - Дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтая лічба хвалюе, надае крылы. Ад яе вее непадробленай святасцю. Гэта - Свята. Сапраўднае і высокае. Дзяржаўнае. Самае галоўнае. І як бы ні замоўчвалі - гэта вялікая памяць аб нараджэнні беларускай незалежнай дзяржавы. І хоць у 1918 годзе не атрымалася ўтрымацца на высокай хвалі тагачаснага гістарычнага цунамі, але ж было і 27 ліпеня 1990 года - новы святы дзень для Беларусі. Сапраўднае Свята Незалежнасці. Дзе яно? Чаму не святкуецца?..

Калі ж будзем мець сваё -- сапраўды незалежнае ад той савецкай “дэкрэтнай” інэрцыі?..

Нейкая абыякавасць наўкола: ай, во - музыка грае, народ таўчэцца, эх, весялосць! Святкуем! Што святкуем? Ай, нешта святкуем -- ды якая розніца!..

Абыякавасць... Чамусьці круціцца і круціцца ў галаве вершык Міхася Мірановіча:

*Нас абы хто абы куды вядзе,*
*І абы што мы робім абы як.*
*І вось таму мы зараз абы дзе,*
*І нам адтуль не выбрацца ніяк.*

А ці выбярэмся адтуль - з той абыякавасці? Ці помнім - што было? Ці адчуем сапраўдную ўзнёсласць і святасць нашых святаў? Упэўнены і перакананы: Выбярэмся. Помнім. Адчуем.

Гэта непазбежнасць, якая толькі ўзмацняецца ад колькасці тых перашкод, што нясьпынна будуюцца на яе шляху. Так і трэба - каб наша будучыня была моцнай і вольнай ад усяго чужога, не нашага. І прышчэпленай ад магчымай дураты, якой заўжды шмат вакол нас.

Будзе Беларусь - Беларуская. З Памяццю. З Мовай. Годная. Працалюбівая. Дабразычлівая.

З еўрапейскай Будучыняй. Са сваімі вялікімі святамі.

І мы павінны рабіць усё, каб так і было.

Каб жыла Беларусь!

*Мікола ЯЦКОЎ.*

## ВЫБАРЫ 2012

Выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прызначаны на 23 верасня 2012 года.

У Магілёўскай вобласці ўтворана 809 выбарчых участкаў. У параўнанні з мінулымі парламенцкімі выбарамі іх колькасць зменшылася на 30.

На скарачэнне участкаў паўплывала негатыўная дэмаграфічная сітуацыя і новае адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне.

Колькасць выбаршчыкаў на ўчастках Магілёўшчыны вагаецца ад 3 да 20 тысяч чалавек. У склад участковых камісій плануецца ўключаць ад 5 да 19 чалавек. Камісіі павінны быць утвораны да 8 жніўня ўключна.

*Антон ДУБАЛОМАЎ.*

## Амаль палова беларусаў гатовыя з'ехаць з краіны назаўсёды

Вынікі апытання грамадскай думкі, праведзенага незалежнымі сацыёлагамі летам гэтага года, шакіруюць: 41,4% беларусаў гатовыя пакінуць краіну назаўсёды, 53,7% рэспандэнтаў выказалі жаданне з'ехаць за мяжу працаваць або вучыцца. Павольна, але няўхільна ўзрастае цікавасць беларусаў да жыцця за мяжой. Пра гэта заяўляюць незалежныя сацыёлагі на аснове апытання грамадскай думкі, праведзенага летам гэтага года. Сёння 53,7% рэспандэнтаў выказваюць жаданне папрацаваць / павучыцца за мяжой (15,1% у Германіі, 11,4% у ЗША, 8,9% у Расіі, 9,8% у любой краіне, толькі б не ў Беларусі), а 41,4% наогул ці хацелі б пераехаць у іншую краіну на пастаяннае месца жыхарства, калі б была такая магчымасць (8,8% у Германію, 7,9% у ЗША, 6% у Расею).

Нагадаем, што ў траўні мінулага года такі адказ давалі 38,5%.

*(Па матэрыялах НІСЭПД)*

## "ЯНКА КУПАЛА ІДЗЕ"

7 ліпеня 2012 г. споўнілася 130 гадоў з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. З гэтай нагоды на Магілёўшчыне, як і па ўсёй Беларусі, адбыліся традыцыйныя чытанні і літаратурныя сустрэчы.



6 ліпеня ў магілёўскай гарадской бібліятэцы імя К.Маркса адбылася літаратурна-музычная вечарына. Супрацоўнікі бібліятэкі з дапамогай аўдыё-відэа прэзэнтацыі вырашылі яшчэ раз пагартаць старонкі біяграфіі вялікага беларускага Песняра, дзе жаўруковым спевам звінела каханне паэта. Наведвальнікі з цікавасцю паслухалі расповеды аб узаемаадносінах Я.Купалы з Паўлінай Мядзёлкай, а таксама сагу аб Уладзіславе Луцэвіч, з якой паэт звязаў сваё сямейнае жыццё.



*Спявае Эдуард Акулін*



*Рыгор Кастусёў слухае Купалу*

Артысты народнага тэатра Палаца вобласці пад кіраўніцтвам Алы Кусковай дапамаглі прысутным адчуць рамантычны подых таго часу.

Кампазітар Мікола Яцкоў у сваім выступленні зрабіў акцэнт на абставінах таго часу, калі каханне паэта трапіла пад чорныя крылы ваеннага ліхалецця, і Купалу прыйшлося займацца пытаннямі новага беларускага войска, якое, на жаль, не ўтварылася, але свой след у гісторыі Беларусі пакінула. У тым ліку і ў выглядзе купалаўскага цыклу вершаў “На вайсковыя матывы. Песні на ваяцкі лад”, музыку да якога ў наш час напісаў Мікола Яцкоў. У выкананні Міколы і Алы Яцковых прагучалі песні “Дзе ты, хмелю, зімаваў...” і “А ў бары,бары...” з гэтага песеннага цыклу.



*Фотаздымак на ўспамін*

Было бачна, што прысутным, сярод якіх быў і намеснік партыі БНФ, былы кандыдат у прэзідэнты Рыгор Кастусёў, вельмі падабалася ўсё тое, что яны бачылі і чулі.

Заключным і вельмі ўрачыстым акордам вечарыны стала выступленне паэта і барда, намесніка старшыні СБП Эдуарда Акуліна, які звярнуў увагу прысутных на неабсяжнасць Купалавага сусвету, які назаўсёды павінен увайсці ў кожнае беларускае сэрца - каб нам і дыхалася вальней, і жылося лепей. У выкананні Э.Акуліна прагучала некалькі песен, у тым ліку і легендарная *“Янка Купала ідзе”*. І калі ўся зала пачала падпяваць “Янка Купала ідзе - нас за сабою вядзе”, адчулася: неўміручае сэрца паэта заўжды з намі. Было, ёсць і будзе.

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

# Свята для беларусаў

*У гэтыя ліпеньскія дні на Магілёўшчыне шырока святкуецца 200-годдзе бітвы ля Салтанаўкі. Але гісторыкі сцвярджаюць, што праўда тых часоў была зусім іншай...*



У Беларусі з часоў акупацыі расійскай імперыяй пераважае расійскі погляд на вайну 1812 года.

Напрыклад, у газеце «Вячэрні Мінск» з'явілася маленькая нататка, дзе пералічваюцца знамянальныя даты ў гісторыі горада Мінска: *«8 ліпеня 1812 г. началася акупация наполеоновскими войсками. После ухода французов в городе осталось 3,5 тысячи жителей из более чем 11 тысяч ... »*

Нататка як бы кажа, што французы вынішчылі да 8 000 жыхароў Мінска. Фокус у тым, што 8 тысяч мінчан пакінулі горад як раз перад уступленнем у яго арміі Кутузава.

Але вернемся да 8 ліпеня. У гэты дзень з Мінска збег расійскі губернатар з чэляддзю. У горад уступіў авангард французскага корпуса Даву. Яго прыход стаў для мінчан святам. Мясцовая шляхта выйшла сустракаць французаў хлебам-соллю.

Расійскія крыніцы пішуць, што напалеонаўскія войскі, маўляў, з распасцёртымі абдымкамі прымалі палякі. Але палякі ў Мінску ніколі не жылі хоць у колькі-небудзь значных колькасцях! Звальваючы усё на палякаў, расійскія дзяржаўныя гісторыкі спрабавалі падаць беларусаў, як адданых сяброў Расійскай імперыі, адвечных саюзнікаў расійцаў, а палякаў - як ворагаў ...

Падчас урачыстай прамовы ў Мінску маршал Даву сказаў, што армія Напалеона прыйшла не прыгнятаць мясцовае насельніцтва, а вярнуць яму Радзіму. Менавіта гэтых слоў усё ў Мінску і чакалі. Людзі апладзіравалі і плакалі ад радасці.

У мінскай друкарні была надрукаваная і распаўсюджвалася па краіне прамова старшыні камітэта паліцыі Часовага ўрада Вялікага Княства Літоўскага Караля Прозара, вымаўленая ад імя ўсёй беларускай шляхты перад Напалеонам у Смаленску: *«Благоволите, Государь, развернуть летопись нашего Отечества и на всякой странице узрите кровавым почерком запечатленную ненависть против наших хищников... Благоволи, государь, милостиво принять жертву нашей преданности»...*

Такія былі пачуцці нашых продкаў. Французы ўспрымаліся як вызваліцелі ад цара. Пра эйфарыю, якая ахапіла ў тыя дні беларускую шляхту, пісаў у сваім даследаванні гісторык В. Г. Краснянскі: *«Что касается уездных городов Минской губернии, то в них происходило то же самое, что в Минске: те же торжественные встречи французов католическим духовенством и представителями города; шумные овации толпы, вечерние иллюминации, необычное оживление, вносимое помещиками, съезжавшимися из окрестных деревень попраздновать, пообедать, поговорить о восстановленной Польше».* Начальнік гарадской інваліднай каманды паручнік Бомбеш пісаў у рапарце камандаванню, што жыхары горада, чакаючы напалеонаўскія войскі, не спалі ўсю ноч і амаль ва ўсіх дамах былі падрыхтаваны святочныя вячэры для дарагіх французскіх гасцей.

У «Мінскай газеце» № 7 за 31 ліпеня 1812 г. была надрукавана невялікая нататка: *«Обыватель Мозырского уезда Богуш, нанятый русским правительством пригнать в русскую армию 72 вола и доставить 30 куфлей водки при помощи Иеронима Митрановского, скрыл этот транспорт в лесу у Старобина Слуцкого уезда. При приближении войск победителей Богуш и Митрановский доставили транспорт в отряд победителей».* Ну, чым не беларускія партызаны!

Фармаваліся палкі добраахвотнікаў, прычым людзі самі плацілі за зброю і пашыў формы. З беларускіх татараў быў сфармаваны гусарскі эскадрон, які пазней страціў у баях палову свайго складу.

Напалеон паабяцаў вярнуць незалежнасць Вялікага Княства Літоўскага, і сваё слова стрымаў. Улада ізноў створанай ВКЛ распаўсюджвалася на Віленскую, Гарадзенскую, Мінскую губерніі і Беластоцкую вобласць, якія былі ператвораныя ў дэпартаменты з падвойнай - мясцовай і французскай - адміністрацыяй. Падобным чынам былі арганізаваны Віцебская, Магілёўская, Смаленская і Курляндская губерніі, але Часоваму ўраду яны не падпарадкоўваліся, як і не ўвайшлі ў французскую версію ВКЛ. Гэта, вядома ж, было крыўдна, але, тым не менш, на кароткі час зноў адрадзілася Вялікае Княства Літоўскае.

Ну, а ўзяцце саюзнікамі Парыжа нашы продкі ўспрымалі як уласную паразу. Фёдар Глінка, ад'ютант расійскага генерала Міхаіла Мілорадовіча, знаходзячыся ў Вільні, так апісаў гэтую падзею: *«Париж взят!» Весть сия распространяется в городе. Русские в восторге, поляки* (Глінка так называе беларусаў) *— смотрят сентябрем!.. Эта весть укусила их за сердце. Площадь, где гуляют, вдруг опустела; все присмирели в домах».*

Так што, з вышэйпрыведзеных крыніц ясна, на чыім баку былі сімпатыі жыхароў нашых зямель у вайне 1812 года.

*Юлія БРУК.*

## Крымінальны экспрэс

► Чарговая аварыя з удзелам байкера адбылася недалёка ад вёскі Галынец Магілёўскага раёна.

26 чэрвеня каля 20.50 на аўтадарозе Красніца - Прысна - Масток - Дрыбін - Горкі побач з вёскай Галынец сутыкнуліся грузавы Mercedes-Benz пад кіраваннем 45-гадовага жыхара Мсціслава і матацыкл Kawasaki пад кіраваннем 32-гадовага магілёўца. Сутыкненне адбылося, калі Мэрсэдэс паварочваў на прыдарожную стаянку: падчас здзяйснення манеўру ён не аддаў перавагі матацыклу, што рухаўся ў сустрэчным напрамку - у выніку адбыўся ўдар. Кіроўца Мэрсэдэса кажа, што папросту не заўважыў байкера. Ад атрыманых траўмаў матацыкліст памёр на месцы.

► 13-гадовая дзяўчынка патанула 18 чэрвеня ў затоцы Дняпра ў раёне вуліцы Фаціна.

Каля 16.30 дзяўчынка разам з двума сяброўкамі купалася ў затоцы - месцы, забароненым для купання. Яна досыць далёка адплыла ад берага, і сяброўкі гэтага не заўважылі. Калі ж праз некаторы час яны пачалі шукаць сяброўку, то зразумелі, што тая патанула: цела дзяўчынкі з дна затокі падымалі вадалазы.

*Алесь СУВОРАЎ.*

# Эканаміст папярэджвае



На думку эканаміста Леаніда Злотнікава, у Беларусі няма магчымасцяў для павышэння зарплаты адразу на 50%.

Леанід Злотнікаў распавёў, што, расследаванне расійскіх уладаў па "растваральніках" скончыцца увядзеннем пошлін на гэтыя віды нафтапрадуктаў, у выніку чаго беларускі бюджэт страціць каля 2 мільярдаў даляраў даходаў у год. Акрамя таго па даходах Беларусі ударыць і падзенне цаны на нафту і нафтапрадукты ў бліжэйшыя гады. Верагоднасць жа таго, што Беларусь атрымае новыя крэдыты, вельмі малая.

Такім чынам, на думку эканаміста, калі ўлады Беларусі да канца года давядуць заробак да 500 даляраў, то ў наступным годзе ў іх не будзе рэзерваў ўтрымліваць яе на гэтым узроўні.

*"Галоўная крыніца падтрымання - рост валавога ўнутранага прадукту. ВУП вырас на 2,5%, значыць і зарплаты павінны вырасці на 2,5% Прадукцыйнасць працы на макраўзроўні складае 2,5%.»,* - распавёў Злотнікаў. *"Самае галоўнае, што у нас няма перадумоў для росту заробкаў адразу на 50%! Для таго каб у наступным годзе падтрымліваць заробак на гэтым узроўні, трэба каля 13 мільярдаў даляраў, а нам аддаваць трэба 13.000.000.000. Усе абрыненцца да чорта!"* - дадаў ён. Акрамя таго, па словах эканаміста, калі нават беларускім уладам нейкім чынам атрымаецца ўтрымаць зарплату, то ў наступным годзе гэта будзе зрабіць яшчэ цяжэй, бо плаціць па крэдытах трэба будзе ўжо 16 мільярдаў даляраў.

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*

# Не падстава для праверкі

Размешчаныя ў інтэрнэце фатаграфіі, якія даказваюць, што на Магілёўскім хлебазаводзе № 4 прысмакі робяць з маргарыну, які расцёкся па падлозе, - не падстава для санітарнай праверкі, заяўляюць санслужбы. Нагадаем, некалькі тыдняў таму грузчык магілёўскага хлебазавода № 4 Уладзімір Трызуноў сфатаграфаваў, а потым апублікаваў у інтэрнэце фота таго, як захоўваецца на прадпрыемстве маргарын, з якога пякуць прысмакі. Работнік паведаміў, што маргарынавы катастрофа доўжылася некалькі тыдняў і была выклікана глупствам кіраўніцтва, якое закупіла кучу маргарыну для печыва, але не змагло захаваць яго ў спякоту.

Адміністрацыя хутка звольніла грузчыка, а вось рэакцыі на парушэнне санітарных нормаў не было. Як паведаміла ўрач-гігіеніст Магілёўскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Галіна Клімянкова, скаргаў да іх не паступала, а планавая праверка прадпрыемства была ў чэрвені. «Праверка нядаўна праводзілася на гэтым прадпрыемстве, таму цяпер няма неабходнасці выходзіць на гэты аб'ект. Я не бачу неабходнасці », - заявіла ўрач-гігіеніст тэлеканалу " Белсат ".

На думку грузчыка, адміністрацыя некалькі разоў спрабавала знайсці нагоду, каб яго звольніць. І нарэшце знайшла. Уладзіміра Трызунова папрасілі папрацаваць не ў сваю змену - за грузчыка, які не мог выйсці, таму што быў п'яны. Працоўны пагадзіўся дапамагчы кіраўніцтву. Пры гэтым ніякіх папер падпісаць яму не прапанавалі. Як аказалася, фармальна выхад не ў сваю змену лічыўся прагулам. Такую прычыну і запісалі ў працоўную кніжку.

*Міхась БАРАЗНА.*

"СПРАВА"
Інфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. моб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падпісана да друку 15.07.2012. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

«СПРАВА» заўсёды на www.kamunikat.org/